# Была вайна — Вялікая Айчынная.
# І Перамога наша — таксама Вялікая.
# Такой яна застанецца навечна.
# Памятаем. Ніколі не забудзем.

Жыве Беларусь!

# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№82 (847) 7-9 мая 1994 г. Субота-панядзелак. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 624505 экз. Кошт у розніцу — 100 руб.

*Жыві і помні*









**Хранікальныя здымкі з архіваў ТАСС, Белінфарм і фота Уладзіміра МЯЖЭВІЧА.**

## Дарагія суайчыннікі!

Сардэчна віншую ўсіх вас з усенародным святам — Днём Перамогі!

Асабліва шчырыя словы павагі і ўдзячнасці хочацца выказаць ветэранам Вялікай Айчыннай вайны. І тым, хто прайшоў вогненнымі франтавымі дарогамі, і тым, хто змагаўся ў партызанскіх атрадах і падполлі, і тым, хто дняваў і начаваў у заводскіх цэхах, і тым, хто пры страшэнным напружанні ўсіх сіл вырошчваў збожжа.

Светлая памяць загінуўшым на палях баёў, не дажыўшым да сёлетняга Дня Перамогі. Беларускі народ свята захоўвае ў сваім сэрцы вечную ўдзячнасць усім сынам і дочкам за гераічны подзвіг у імя жыцця.

Дарагія ветэраны! Упэўнены, што ваш вялікі жыццёвы вопыт, любоў да Бацькаўшчыны ў гэты цяжкі час будуць садзейнічаць справе кансалідацыі нашага грамадства, выхаванню падрастаючага пакалення.

Жадаю кожнаму з вас доўгіх гадоў жыцця, моцнага здароўя, дабрабыту, шчасця і поспехаў на карысць роднай Беларусі!

З глыбокай павагай

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М.ГРЫБ.**

*Беларусь—Малдова*

## Душа межаў не прызнае

Другі дзень знаходжання дэлегацыі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у Малдове пачаўся сустрэчай кіраўніка парламента Мячаслава Грыба і суправаджаючых яго асоб з прадстаўнікамі беларускай абшчыны ў малдаўскай сталіцы. Усяго ў Малдове пражывае 20 тысяч нашых землякоў. Многія з іх займаюць выдатнае месца ў эканоміцы, навуцы і культуры. І Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі, несумненна, прыемна было даведацца, што "беларусы з'яўляюцца раўнапраўнымі грамадзянамі Малдовы". Гэтыя словы Прэзідэнта Мірчы Снегура ўжо шырока вядомыя ў Малдове.

Мячэслаў Грыб расказаў землякам аб палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў Беларусі. Нямала цікавага паведаміў і кіраўнік парламента Малдовы Петр Лучынскі. Ён падрабязна расказаў аб дзейнасці малдаўскага парламента новага саставу, аб вопыце работы дэпутатаў у заканадаўчай і іншых сферах дзейнасці.

У дзень ад'езду дэлегацыя Вярхоўнага Савета Беларусі наведала Акадэмію навук Рэспублікі Малдова. На сустрэчы абмяркоўваліся перспектывы ўзаемнага супрацоўніцтва, работы над сумеснымі праектамі.

**Белінфарм.**

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### Аб выбранні членаў Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**
Выбраць членамі Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь:
ВАСІЛЕВІЧА Рыгора Аляксеевіча
ПАДГРУШУ Валянціну Васільеўну
ПАСТУХОВА Міхаіла Іванавіча
СЕРАДУ Мікалая Міхайлавіча
ФАДЗЕЕВА Валерыя Аляксеевіча
ФІЛІПЧЫК Рыму Іванаўну
ХОМУ Ксенію Іванаўну
ЦІХІНЮ Валерыя Гур'евіча
ЦІШКЕВІЧА Станіслава Іванавіча.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М.ГРЫБ.**

28 красавіка 1994 г.
г.Мінск. N 3006-XII

*Вкратце*

**Вчера на 3-м энергоблоке Белоярской АЭС (40 километров севернее Екатеринбурга, Урал), находящемся на капитальном ремонте, возник пожар.**

По предварительным данным, радиационная обстановка на станции и за ее пределами нормальная. Пострадавших нет.

❑

**Встреча Бориса Ельцина с Джохаром Дудаевым может состояться при условии, если президент Чечни признает, что его республика находится в составе Российской Федерации.**

Об этом заявил в Нальчике директор Федеральной службы контрразведки России Сергей Степашин на встрече с членами парламента и правительства Кабардино-Балкарии.

❑

**Самолет Ил-76 министерства Российской Федерации по чрезвычайным ситуациям вылетел вчера в Йемен с целью забрать российских граждан.**

В Йемене в настоящее время продолжаются боевые действия между вооруженными формированиями севера и юга.

❑

**Договор об объединении денежных систем России и Беларуси, подписанный премьерами двух стран 12 апреля в Москве, в Государственную думу Российской Федерации пока не поступал.**

Об этом в пятницу сообщили в подкомитете Госдумы по бюджету, налогам и финансам.

## Мытныя пошліны адменены

Як паведаміў 3 мая на пасяджэнні беларускага ўрада кіраўнік кабінета Вячаслаў Кебіч, першым віцэ-прэм'ерам Расіі Алегам Саскаўцом падпісана пастанова расійскага ўрада аб адмене мытных пошлін на расійскую прадукцыю, якая пастаўляецца на беларускі рынак. Пастанова падпісана ў рамках Дагавора аб аб'яднанні грашовых сістэм Расіі і Беларусі і будзе дзейнічаць да ўступлення гэтага дакумента ў сілу ў поўным аб'ёме.

**Белінфарм.**

**Ад рэдакцыі.**

Даведаўшыся аб гэтым паведамленні, мы вырашылі зрабіць да яго ўдакладненні і пазванілі ў Мытны камітэт рэспублікі. Аказваецца, мытныя пошліны Беларусь на сваю прадукцыю зняла значна раней, чым Расія.

На пытанне аб тым, што выйграе рэспубліка ад такіх пагадненняў, атрымалі наступны адказ: будзем купляць таннейшыя расійскія тавары.

Эканамічных абгрунтаванняў адмены мытных пошлін ніхто не даў.

Пасля ўступлення ў дзеянне пастаноў беларускага і расійскага ўрадаў спраў у мытнікаў, аднак, не ўбавілася. Зараз яны выконваюць іншыя спецыфічныя функцыі: вядуць барацьбу з кантрабандай наркотыкаў, зброі, культурных каштоўнасцей. Акрамя таго, мытнікі кантралююць праходжанне грузаў з трэціх краін.

## Дарагія ветэраны Вялікай Айчыннай вайны!

9 мая народ Рэспублікі Беларусь разам з іншымі брацкімі народамі адзначае Дзень Перамогі над фашысцкай Германіяй.

Наш суровы і цяжкі шлях да Перамогі адлюстраваны ў лічбах ахвяр і страт беларускага народа. Кожны чацвёрты жыхар рэспублікі загінуў на фронце, у партызанскіх атрадах і падполлі, спалены або закатаваны ў канцлагерах.

Для нашага народа — вайна не проста гісторыя, а вечны чалавечы боль. Гэта памяць аб мінулым, аб гэтых велізарных ахвярах, аб матэрыяльных стратах. У мільёнах сем'яў не згладзілася горыч цяжкіх страт.

Мы помнім, што беларускі народ ішоў да Перамогі не ў адзіноцтве, а ў цесным страі з іншымі народамі. Таму свята Перамогі — гэта агульнае непадзельнае свята беларускага, рускага, украінскага і іншых народаў, якія перамаглі карычневую напасць.

Імёны барацьбітоў з фашызмам, якія загінулі на нашай зямлі, назаўсёды застануцца ва ўдзячнай памяці беларускага народа. Без іх гераічнага жыцця, аддадзенага за нашу свабоду, не было б і Перамогі.

Сёння, як ніколі раней, для кожнага з соцень тысяч ветэранаў Вялікай Айчыннай дарагая справядлівасць у ацэнцы вынікаў і ўрокаў вайны. Не толькі матэрыяльныя цяжкасці, боль ад ран і калецтваў, але і скажэнне праўды аб ёй трывожаць душу ветэранаў.

Усё менш сярод нас яе ўдзельнікаў і відавочцаў. Таму жывыя не павінны дапусціць, каб памяць аб вайне стала прадметам спекуляцый, скажэнняў і зневажанняў. У рэспубліцы будуць устаноўлены імёны ўсіх загінуўшых, а іх подзвіг увекавечаны.

Свяшчэнны доўг і наш абавязак думаць аб жывых героях — абаронцах Айчыны.

Нягледзячы на цяжкія эканамічныя ўмовы, Савет Міністраў, абапіраючыся на падтрымку ўсяго народа рэспублікі, і ў далейшым будзе рабіць усё магчымае па аказанню ветэранам матэрыяльнай і маральнай падтрымкі ў складаны перыяд нашай гісторыі.

Паважаныя суайчыннікі!

У гэты дзень мы ўшаноўваем мужнасць, адвагу і гераізм кожнага, хто са зброяй у руках да канца выканаў свой абавязак, зрабіў усё, каб прыйшла пераможная вясна. Бязмежныя мая ўдзячнасць і павага да герояў-франтавікоў, партызан і падпольшчыкаў.

Небывалую стойкасць і працоўную доблесць у ліхую часіну праявілі працаўнікі тылу. Іх жыццё і праца ў гады вайны былі падпарадкаваны аднаму святому абавязку: "Усё для фронту, усё для перамогі!".

Упэўнены, што на слаўных справах ветэранаў вайны і працаўнікоў тылу будуць выхоўвацца новыя пакаленні, вучыцца мужнасці, адвазе і стойкасці.

Віншую вас з Днём Перамогі, дарагія таварышы! Слава ўсенароднаму подзвігу ў імя Радзімы, у імя жыцця на зямлі! Моцнага вам здароўя, шчасця, дабрабыту і ўпэўненасці ў заўтрашнім дні!

З павагай

**В.КЕБІЧ, Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.**

*Пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### Аб устанаўленні дыпламатычных адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Каралеўствам Камбоджа, паміж Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Нікарагуа

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Пагадзіцца з прапановамі Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь аб устанаўленні дыпламатычных адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Каралеўствам Камбоджа, Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Нікарагуа.
2. Даручыць Міністэрству замежных спраў Рэспублікі Беларусь прыняць неабходныя практычныя меры для адпаведнага афармлення ўстанаўлення дыпламатычных адносін з Каралеўствам Камбоджа і Рэспублікай Нікарагуа.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М.ГРЫБ.**

26 красавіка 1994 г.
г.Мінск. N 2981—XII

